*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*


# НАША СЛОВА

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 34(142) ◈ 25 жніўня 1993 г. ◈ Кошт — 5 рублёў.


## ПОСТУП ТЫДНЯ

19 ЖНІЎНЯ Ў МАСКВЕ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СТАНІСЛАВА ШУШКЕВІЧА З ПРЭЗІДЭНТАМ РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ БАРЫСАМ ЕЛЬЦЫНЫМ. *Лідэры дзвюх краін яшчэ раз пацвердзілі агульнасць поглядаў па шэрагу пытанняў. Барыс Ельцын паабяцаў усе складанасці, звязаныя з узаемаадносінамі двух суседніх народаў, вырашыць да свайго ад'езду ў Польшчу. Гаворачы пра прызначаную на 7 лістапада сустрэчу кіраўнікоў дзяржаў СНД, Станіслаў Шушкевіч выказаў упэўненасць, што бакі зробяць вялікі крок насустрач адзін аднаму.*

НАМЕСНІК ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА «НАРОДНАЙ ГАЗЕТЫ», ДЫРЭКТАР ПРАГРАМЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЦЭНТРА СТРАТЭГІЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ ІВАН МАКАЛОВІЧ: «Шлях у Еўропу ляжыць праз мову і інфармацыю. Таму варта найхутчэй усіх — школьнікаў і дарослых — пасадзіць за вывучэнне англійскай і іншых еўрапейскіх моў. З гэтага пачынаецца дарога ў свет любой краіны. А нам навязваюць рускую, каб вялікія сродкі ішлі на яе выкладанне. Гэта не што іншае, як спроба паставіць плот паміж Еўропай і Рэспублікай Беларусь».

*Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь дало згоду на выдзяленне з рахунку беларуска-амерыканскага партнёрскага фонду 500 мільёнаў рублёў для аказання матэрыяльнай дапамогі сем'ям, якія найбольш пацярпелі ў выніку моцнай летняй паводкі ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях.*

*На чарговым соймавым семінары Беларускага народнага фронта* ішла гаворка аб геапалітычным становішчы Беларусі ў мінулым і цяпер. З асноўнымі дакладамі выступілі Анатоль Грыцкевіч, Генадзь Сагановіч і Юрый Хадыка.

*НАМЕСНІК СТАРШЫНІ ПАРЛАМЕНЦКАЙ КАМІСІІ ПА АДУКАЦЫІ, КУЛЬТУРЫ І ЗАХАВАННІ ГІСТАРЫЧНАЙ СПАДЧЫНЫ АЛЕГ ТРУСАЎ НАВЕДАЎ МСЦІСЛАЎШЧЫНУ, дзе праверыў ход рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры. Ён агледзеў былы езуіцкі касцёл, царкву ў Мазалаве, Ануфрыеўскую царкву ў Сяльцах і былы манастыр у Пустынках. Было выяўлена, што добра вядуцца аднаўленчыя работы толькі ў езуіцкім касцёле.*

400 тысяч механічных і кварцавых гадзінікаў прадаў у Казахстане ўсяго за адзін дзень Менскі гадзіннікавы завод «Прамень». А гавораць, што беларуская прадукцыя не карыстаецца попытам.

*У Івянцы ў музеі Ф. Э. Дзяржынскага адкрылася выстава твораў Апалінара Пупко, якая прысвечана 100-годдзю з дня нараджэння слыннага разьбяра па дрэве. Гэтая выстава — першае мерапрыемства па ўшанаванні памяці А. Пупко.*

## А ПРА ТБМ АРГАНІЗАТАРЫ СВЯТА ЗАБЫЛІ

***25 ліпеня ў гісторыю старажытнага горада Ліды запісана яшчэ адна старонка. Тут адбылося вялікае свята, прысвечанае Дню незалежнасці Рэспублікі Беларусь.***

Разнастайная і цікавая праграма прапанавана лідчанам і гасцям горада, у тым ліку з далёкага і блізкага замежжа. Гэта і выступленні вядомых прафесійных і самадзейных калектываў і выканаўцаў, канцэрт майстроў эстрады, адкрыццё выставы вядомых мастакоў рэспублікі і мясцовых аўтараў, кірмаш, выставы-продажы прадукцыі прадпрыемстваў горада, народных умельцаў і мастакоў, спартыўна-забаўляльная праграма і многа іншых цікавых святочных імпрэзаў. Словам, умеюць лідчане працаваць і не горш умеюць ладзіць свята. Здаецца, вуліцы і плошчы горада ў гэты дзень дыхалі паветрам незалежнасці, паветрам адраджэння. Хвалюючай часткай свята было яго адкрыццё на плошчы імя 600-годдзя г. Ліды каля старажытнага Лідскага замка. Выступленне старшыні гарвыканкама Уладзіміра Малеца, гасцей свята сведчылі аб тым вялікім клопаце, які надаюць кіраўнікі горада пытанням адраджэння роднай мовы, нашай нацыянальнай культуры. Наогул трэба адзначыць вельмі высокі ўзровень прапанаваных удзельнікам свята мерапрыемстваў, шчырую зацікаўленасць старшыні гарвыканкама, супрацоўнікаў усіх аддзелаў выканкама, каб свята стала святам усіх лідчан, усіх добрых людзей, якія прыехалі сюды.

Але, бадай, самае галоўнае ў праграме свята — адкрыццё помніка Францішку Скарыну. Хвалюючымі былі шэсце да помніка, урачыстае яго адкрыццё і феерверк. Тысячы людзей у святочным настроі прыйшлі да месца, дзе ўстаноўлены помнік, з хваляваннем чакалі моманту, калі спадзе покрыва. І гэты момант настаў. Перад вачыма прысутных пры асвятленні пражэктараў паўстала постаць ва ўвесь рост вялікага асветніка Францішка Скарыны. З гэтага моманту ён будзе стаяць тут, на легендарнай Лідскай зямлі, вечна.

На гэтым можна было б і закончыць кароткі аповяд пра свята. Аднак калі мы пазнаёміліся з яго праграмай, то да святочнага настрою ў нас, прадстаўнікоў Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (а мы — гэта намеснік старшыні ТБМ Яўген Цумараў і аўтар гэтых радкоў), прымяшалася трошкі засмучэння. Справа ў тым, што ў гэтай праграме Лідская гарадская арганізацыя ТБМ не пазначана ні як арганізатар свята, ні як яго ўдзельнік. Не знайшлі мы ў складзе аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні свята і прозвішча старшыні гарадской рады ТБМ Міхася Мельніка. А між тым, менавіта яму, сябрам ТБМ Ліды належыць ініцыятыва збудавання помніка. Яшчэ ў 1990 годзе імі распачата акцыя па збору сродкаў на збудаванне помніка. Каля 1 млн. рублёў сабрана пры іх непасрэдным удзеле і намаганнях. Па тым часе гэта не малыя грошы. Потым да гэтай ініцыятывы далучыліся другія арганізацыі і ўстановы, асобныя грамадзяне. Так атрымалася, што многія ўдзельнікі свята даведаліся пра Таварыства беларускай мовы праз кнігі і сувеніры ТБМ, якія мы прывезлі з сабою. Асабліва было прыемна бачыць, як няўрымслівая сакратар-скарбнік гарадской арганізацыі ТБМ Марыя Ганчар запрашала купіць друкаваныя выданні і сувеніры, прыгаворваючы: «Купіце значок ТБМ, на ім знак Скарыны, помнік якому сёння будзе адкрыты ў нашым горадзе». І куплялі, і дзякавалі, і прасілі: «Раскажыце пра вашу арганізацыю. Добрую справу вы робіце па адраджэнні роднай мовы. Дзякуем!» Многа добрых слоў давялося пачуць, пакуль працаваў кіёск. І падумалася: дарэмна забыліся пра Таварыства арганізатары свята.

В. ВІЛЬТОЎСКІ.

## ЖАЛЬБІНЫ Ў ІГУМЕНІ






Фота Міколы САСНОЎСКАГА.

(Тэкст чытайце на с. 2).

## Беларускі час у фотааб'ектыве



## На вернасць Айчыне



27 ліпеня было двойчы святочным для воінаў часці, дзе камандзірам афіцэр В. Лапчанка. У гэты дзень воіны прысягнулі на вернасць беларускаму народу, сваёй Айчыне — Рэспубліцы Беларусь. Вайскоўцаў сардэчна віншавалі генерал-маёр Ф. Ласута і намеснік старшыні гарвыканкама А. Зінчук (на здымку).

Аляксандр САЧАК,
сябра ТБМ,
намеснік камандзіра
вайсковай часці
па баявой падрыхтоўцы,
афіцэр.

*З рэдакцыйнай пошты*

## Свята ўдзячнасці

Як вядома, у нашай рэспубліцы 8—10 ліпеня адбылося свята сусветнага чыну — Першы з'езд беларусаў свету. Гэту падзею пад гукі славутай «Пагоні» адкрылі знакамітыя і шчырыя беларусы: С. Шушкевіч, В. Быкаў, Н. Гілевіч.

І хоць радыё і тэлебачанне шырока асвятлялі з'езд, але, на мой погляд, час тэлетрансляцыі быў выбраны не зусім зручны. Няўжо дзеля такой значнай падзеі не знайшлося лепшага эфірнага часу, акрамя начнога? Між тым, гэтых трансляцый шматлікія тэлегледачы з нецярплівасцю чакалі, бо многія ведалі, што да нас прыехалі іх суродзічы, якіх дзецьмі вывезлі з Беларусі. Тэлегледачы бачылі на вачах нашых гасцей-суайчыннікаў слёзы ўдзячнасці за сустрэчу з роднай зямлёй, з Бацькаўшчынай.

Хто сачыў за тэлеперадачамі, бачылі, якой пашанай карыстаецца старшыня БНФ спадар Зянон Пазьняк. Як яго стоячы віталі ўдзельнікі з'езда яшчэ да выхаду на трыбуну. Мне міжвольна згадаліся словы З. Пазьняка, што калі людзі пачнуць думаць па-беларуску, калі больш будзе самасвядомасці, то, несумненна, прыкметна знікне злачыннасць...

Знамянальна, што на адкрыцці з'езда выступіў звольнены ў запас (на мой погляд, абсалютна беспадстаўна — за беларускі патрыятызм) кіраўнік БЗВ падпалкоўнік М. Статкевіч. І апошняе. Лічу, што трансляцыю Першага з'езда беларусаў свету трэба было абавязкова паглядзець моладзі, школьнікам — гэта ўзорны ўрок асэнсавання сваёй Радзімы.

В. БАРБОЛІН.

# Хто як адпачывае, той так і працуе

Чалавек недасведчаны або грамадзянін замежнай краіны, знаходзячыся ў сталіцы суверэннай Беларусі Менску 27 ліпеня 1993 года, напэўна, не здагадаўся б, што ў гэты дзень менчукі нешта святкавалі, а тым больш — адзначалі Дзень незалежнасці. Не буду ўзгадваць пра наладжаныя з гэтай нагоды ўрачыстыя пасяджэнні, фестывалі, канцэрты. Нагадаю толькі пра святочнае афармленне горада.

Пабываўшы ў гэты дзень у некаторых мясцінах сталіцы, адразу адзначыў — гарадскія ўлады, дзяржаўныя ўстановы дружна праігнаравалі галоўнае свята Беларусі. 27 ліпеня ў Менску цяжка было ўбачыць дзяржаўны бел-чырвона-белы сцяг. Нават тыя арганізацыі ды ўстановы, на будынках якіх летась былі вывешаны дзяржаўныя сцягі, на гэты раз чамусьці гэтага не зрабілі, а галоўная вуліца сталіцы — праспект Ф. Скарыны па старой «саўковай» традыцыі быў «упрыгожаны» блакітнымі, жоўтымі і чырвонымі сцяжкамі (???). Смех ды і толькі.

Вось толькі некаторыя назіранні. Менск, 27 ліпеня 1993 года, Дзень незалежнасці.

Праспект Пушкіна: на будынках прадпрыемстваў і ўстаноў — ніводнага дзяржаўнага бел-чырвона-белага сцяга.

Вуліца Кальварыйская (былая Апанскага) — ніводнага дзяржаўнага сцяга; шыльды са старой назвай вуліцы напярэдадні свята не зменены.

Міністэрства мантажных і спецыяльных работ (плошча Мяснікова) — дзяржаўныя сцягі адсутнічаюць.

Міністэрства культуры (!!!) — дзяржаўныя сцягі адсутнічаюць.

Оперны тэатр — ніводнага сцяга.

Дом урада (!!!), галоўны ўваход — ніводнага дзяржаўнага сцяга.

Менскі гарадскі Савет, галоўны ўваход — ніводнага сцяга.

Увогуле, галоўная плошча сталіцы — плошча Незалежнасці — не была ўпрыгожана ніводным бел-чырвона-белым сцягам. (Выключэнне — будынак педінстытута.)

Нацыянальны банк РБ (!!!), галоўны ўваход — дзяржаўныя сцягі адсутнічаюць.

Акадэмія міліцыі — дзяржаўныя сцягі адсутнічаюць.

І нарэшце — будынак Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (!!!), усе пад'езды — ніводнага дзяржаўнага сцяга.

Толькі на будынках некаторых дзяржаўных устаноў (педінстытут, ДК прафсаюзаў, Міністэрства ўнутраных спраў РБ, Міністэрства абароны РБ, Дзяржаўная філармонія, Дзяржаўны рускі тэатр) луналі нацыянальныя сцягі.

Што ж, адносіны Вярхоўнага Савета і выканаўчых улад Беларусі да ўласнай дзяржаўнасці і незалежнасці вядомая. Ім ужо нічога даказаць нельга. І не трэба! Не паважаючы свае дзяржаўныя сімвалы, яны не паважаюць свой народ, але ў першую чаргу — саміх сябе. Не зусім зразумелыя дзеянні службаў Менгарвыканкама, адказных за афармленне горада, якія, здаецца, зусім згубілі пачуццё меры і такту (вынік адсутнасці элементарнай культуры і густу). Чыноўнікам адпаведных службаў не пашкодзіла б усвядоміць (можа, з дапамогай сістэмы штрафаў), што на дзяржаўныя святы краіны праспект Ф. Скарыны ды іншыя галоўныя вуліцы і плошчы сталіцы ўпрыгожваюцца дзяржаўнай нацыянальнай сімволікай — бел-чырвона-белымі сцягамі, а блакітныя, жоўтыя, чырвоныя, фіялетавыя сцяжкі ўпрыгожваюць горад, калі ў ім адбываецца, скажам, свята міру і працы, свята гумару і смеху, карнавалы, шэсці і да т. п.

Павучыцца б нам адзначаць свае дзяржаўныя святы так, як, напрыклад, эстонцы, латышы ды літоўцы. А нас пакуль што датычыцца прымаўка: хто як адпачывае, той так і працуе.

Ігар КРУЧОНАК,
архітэктар.

## Ратуйце нашу мову!

*Шаноўная рэдакцыя газеты «Наша слова», пішуць вам жыхары вёскі Гута, што ў Нараўлянскім раёне Гомельскай вобласці. З цікавасцю чытаем вашу газету. Яна дапамагае нам верыць у светлае заўтра Беларусі.*

*У нашай вёсцы ёсць людзі, якія помняць пачатак дваццатага стагоддзя. Яны помняць не толькі вясёлыя дні, але і горкія. А горкіх было вельмі шмат. Нашы аднавяскоўцы гінулі і прападалі без вестак на Японскай вайне (1904—1905 гг.), Першай сусветнай, Грамадзянскай, Другой сусветнай, а таксама ад голаду і холаду ў часы раскулачвання і калі хапаў «хапун». Нельга пералічыць усіх людзей, якія аддалі жыццё за інтарэсы чужых імперый, якія загінулі ад рук акупантаў і ад іх прыслугачоў. Нашу вёску ў 1943 годзе спалілі немцы. Мала хто ўцалеў. Вёска адрадзілася, а ў 1986 годзе яе зноў напаткала бяда — Чарнобыль. Але найбольш страшнае — гэта духоўны Чарнобыль, што прынеслі нам чужынцы, якія не толькі знішчалі людзей, але і нашу дзяржаўнасць, нашу мову. Дык змагайцеся, ратуйце нашу мову. Мы з вамі. Жыве Беларусь!*

Жыхары вёскі Гута:
Бондары, Лігскія і іншыя.

## ДЗЯКУЮ!

Дазвольце са старонак Вашай газеты выказаць шчырую падзяку сп. Васілю Кухто, які пражывае ў Віцебску, за яго дасылкі мне беларускамоўных газет «Наша слова», «Наша Ніва», «ЛіМ», «Голас Радзімы», «Культура», «Грамада», «Віцебскі выбар». Робіць гэта ён за свой асабісты кошт, г. зн. бескарысліва.

Дзякую Вам, шаноўны Васіль Іванавіч, за ўсё, што Вы для мяне робіце, каб я за межамі Беларусі адчуваў сябе беларусам і быў у курсе спраў маёй Бацькаўшчыны.

Пятрусь КАПЧЫК,
філолаг.

г. Ізяслаў, Украіна.

# ЖАЛЬБІНЫ Ў ІГУМЕНІ

Тры гады таму свету стала вядома пра яшчэ адно злачынства камуністаў у першыя дні вайны. Тады ў Ігумен перагналі вязняў менскай турмы, у ліку якіх былі беларусы, палякі і афіцэры войска Летувы. 26 чэрвеня вязняў расстралялі ля дарогі за горадам. Аднак некалькі чалавек ўратаваліся.

У чэрвені 1991 года Беларускі народны фронт «Адраджэньне» на месцы расстрэлу паставіў крыж з мемарыяльнай таблічай. Тады ж і летувісы асвяцілі драўляны помнік, пасадзілі кветкі.

Сёлета сябры БНФ і Мартыралога Беларусі, Асацыяцыі палітычных ахвяраў Беларусі сабраліся ізноў, у трэці раз, у Ігумене. На жальбіны прыехала і дэлегацыя з Летувы ад Саюдзіса і Летувіскай злучнасці палітычных вязняў. Ад былой турмы шляхам пакутнікаў да месца расстрэлаў прайшлі людзі, у каго памяць не прапала і сэрцы не счарсцвелі. Ля крыжа адбылося набажэнства (служылі святар беларускай уніяцкай царквы і летувіскі ксёндз), а таксама жалобны мітынг. Уніяцкі хор з Менска спяваў псалмы.

Прыкра, што з Ігумена (Чэрвеня) на жальбіны прыйшло толькі з дзесятак чалавек. Няўжо тут, як даўней, камуністычная прапаганда моцна трымае мясцовы люд пад сваім уплывам? Ці так моцна на дзесяцігоддзі запалоханы ігуменцы тым жудасным расстрэлам? А дзе работнікі культуры і настаўнікі?

З Менска і Летувы прывозяць сюды кветкі і вянкі. А чаму ж ніводная мясцовая арганізацыя ці прадпрыемства не засведчылі свой удзел у жальбінах? А што казаць пра мясцовую ўладу, якая першай мусіла б прыйсці сюды хаця б з вянком памяці?

Не цяжка ўявіць сабе, якой бы паўстала наша рэспубліка ў вачах Летувы, свету, калі б БНФ і Мартыралог Беларусі не лічылі сваім абавязкам памятаць пра ахвяры бальшавізму і ўмацоўваць памяць аб іх.

Мы будзем прыходзіць сюды штогод. Але час падумаць пра больш грунтоўную форму ўвасаблення памяці: тут трэба збудаваць мемарыял.

Базыль АРШАНЕЦ.

## Шукаю сяброў

Мне 27 гадоў, студэнт Інстытута замежных моў. Займаюся спортам, цікаўлюся філасофіяй, люблю падарожнічаць. Шукаю сяброў па перапісцы, якія жывуць у далёкім замежжы.

Хатні адрас: Беларусь, 220038, г. Мінск, вул. Даўгабродская, дом 6, корпус 2, кв. 4. Рунцо Зміцер.

WIS

У Магілёве 5—7 жніўня адбылася ўрачыстасць, прысвечаная кананізацыі святціцеля Георгія Каніскага, былога архіепіскапа магілёўскага і беларускага, асветніка і культурнага дзеяча, 275-годдзе з дня нараджэння якога адзначалася ў мінулым годзе.

ШУТАВА.

### ТЫ ЗАПІСАЎСЯ КАМУНІСТАМ?

У Касцюковічах адбылася нарада кіраўнікоў гарадскіх арганізацый, якую наладзілі мясцовыя камуністы.

Яе мэта — агітацыйная. Былых камуністаў заклікалі аднаўляцца ў партыі, ну а беспартыйных — уступаць.

Паўлюк ЛОСЬ.

### «АРШАНСКАЯ БІТВА-93»

28 жніўня пачнецца фестываль беларускай аўтарскай песні «Аршанская бітва-93», прысвечаны 479-й гадавіне славутай падзеі. Традыцыйна ён праводзіцца на месцы бітвы — на беразе Дняпра ля вёскі Гацькаўшчына.

Паўлюк ЛОСЬ.

## Вучымся!

# Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**БАРКАЛАБАЎСКІ ЛЕТАПІС.** Названы так паводле месца напісання — у вёсцы Баркалабава (цяпер у Быхаўскім раёне). Лічыцца летапісам умоўна, бо побач з выкладам падзей канца XVI—пачатку XVII стагоддзя з яго старонак паўстае вобраз самога аўтара. Ён занатоўваў пераважна мясцовыя здарэнні, замалёўкі вясковага жыцця, апавядаў пра страшны голад, які быў у пачатку XVII стагоддзя. Пералічваючы выразы, з якімі звярталіся, просячы хлеба, жабракі, аўтар згадвае і слова «спадарыня»: матухна, зезулюхна, утухно, панюшко, сподариня...»

На мове летапісу адбіліся адукаванасць аўтара, яго жыццё сярод простага народа.

Відаць, таму ў Баркалабаўскім летапісе часцей, чым у іншых старабеларускіх пісьмовых помніках, перадаецца аканне: *село Гарбовичи, село Радивонковичи;* пазначаецца пераход *у* у *ў* (перадаецца графічна літарай *в*): *побив град;* паводле нормаў жывой беларускай мовы пішуцца *п, х* на месцы *ф* (*пилипа, огапъя, сопъя, хилимон*); перадаецца на пісьме прыстаўное *в (до восени, на вулицах).* Назоўнікі мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку побач з канчаткам *-а* часта атрымліваюць і канчатак *-у*: *меду пресного, без закону, дождж мало, з морозу* — так, як гаварылі і гавораць беларусы.

У летапісе шырока адлюстравалася лексіка жывой народнай мовы: *перуны и грады великие, гром гримев увосень, ковзота, студень, жито, ярь, ярица, цибуля, горохи, ляда увосень палили, жеребя волк заев.*

Баркалабаўскі летапіс перапісаны беларуска-ўкраінскім скорапісам. Ён трапіў у Маскву і зберагаецца цяпер у Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

*Паводле У. М. СВЯЖЫНСКАГА.*

**Віктар Іванавіч БАРКОЎСКІ** (18.01.1900, г. Менск — 26.12.1982), мовазнаўца, акадэмік АН СССР, замежны член Нямецкай АН у Берліне, член-карэспандэнт Акадэміі навук і літаратуры ў Майнцы, ганаровы доктар філасофіі універсітэта імя Гумбальта. У 1923 годзе скончыў Петраградскі універсітэт. У 1930—50 гг. працаваў загадчыкам мовазнаўчых кафедраў Магілёўскага ды іншых педагагічных інстытутаў, галоўным рэдактарам часопісаў «русский язык в школе» (1950—53) і «Русская речь» (1967—78), дырэктарам Інстытута мовазнаўства АН СССР (1954—60). За даследаванне і публікацыю наўгародскіх берасцяных грамат быў адзначаны ў 1970 годзе Дзяржаўнай прэміяй СССР.

В. І. Баркоўскі спрычыніўся і да беларускага мовазнаўства: выступаў па пытаннях рэформы беларускага правапісу (даклад «Бойкі на мовазнаўчым фронце», 1931 г.), рэдагаваў манаграфію Я. Ф. Карскага «Беларусы». Вынікам аналізу багатага рукапіснага і друкаванага матэрыялу беларускай мовы стала манаграфія «Сінтаксіс казак. Руска-беларускія паралелі» (1981).

*Паводле І. К. Германовіча.*

**Альберт Іосіфавіч БАРТАШЭВІЧ** (2.08.1942, в. Раёўшчына Стаўбцоўскага раёна), польскі мовазнаўца, доктар філалогіі. У 1964 годзе скончыў філалагічны факультэт Вроцлаўскага універсітэта, з 1987 года працаваў загадчыкам кафедры расійскай мовы, дацэнтам аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, дырэктарам варшаўскага філіяла Інстытута расійскай мовы імя А. С. Пушкіна (у Маскве). На аснове «Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы» з І. Камендацкай склаў першы «Адваротны слоўнік сучаснай беларускай мовы» (выдадзены ў Варшаве; т. 1—4, 1988—1989), які ўключае каля 98 тысяч слоў.

*Паводле А. С. Аксамітава.*

**Арцём Яўхімавіч БАХАНЬКОЎ** (29.01.1924, в. Саламір'е Полацкага раёна), беларускі мовазнаўца, доктар філалагічных навук. У 1955 годзе скончыў Менскі педінстытут, працуе ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі.

А. Я. Баханькоў аўтар шматлікіх (больш за 60) навуковых прац па сінтаксісе, лексіцы, дыялекталогіі, гісторыі роднай мовы. У манаграфіі «Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд: сацыялінгвістычны нарыс» (1982) ён аналізаваў сацыяльна-эканамічныя і культурна-гістарычныя ўмовы, у якіх фарміравалася сучасная беларуская мова, крыніцы і шляхі ўзбагачэння лексікі новымі словамі. А. Я. Баханькоў удзельнічаў у складанні тлумачальных слоўнікаў і «Беларуска-рускага слоўніка».

*Паводле І. К. Германовіча.*

## Тэрміналагічныя слоўнікі

# Недакладная «эканоміка»

Не так даўно ў свет выйшаў «Краткий русско-белорусский словарь экономических терминов» Л. П. Кунцэвіч, У. Ф. Нікалаева, В. М. Нікалаевай. Можна толькі падзякаваць аўтарам гэтай даволі змястоўнай і так патрэбнай сёння працы. Адзначу, што я ўжо сутыкаўся з неабходнасцю ведаць дакладны пераклад прафесійных тэрмінаў, што і знайшоў для сябе ў згаданым слоўніку.

Аднак нельга не адзначыць, што ў слоўнік трапілі некаторыя недакладнасці. А яшчэ складваецца ўражанне, што аўтары механічна перакладалі тыя ці іншыя тэрміны з расійскай мовы, не ведаючы, што ў беларускай мове ёсць свае, толькі ёй уласцівыя словы-тэрміны. Аўтары, самі таго не жадаючы, праводзяць думку, што беларуская лексіка ў сферы эканомікі — гэта вытворная ад расійскай. Двухварыянтнасць беларускага эквіваленту дае падставу меркаваць, што аўтары карысталіся расійска-беларускімі слоўнікамі пад рэдакцыяй С. М. Грабчыкава і падобнымі «творамі», русіфікатарскі характар якіх даўно даказаны спецыялістамі.

Мяркую, што «Краткий русско-белорусский словарь экономических терминов» пакуль што «сыры», але пасля выпраўлення памылак, з дапаўненнямі мог бы быць выпушчаны ў новай рэдакцыі і рэкамендаваны для навучальных установаў і прадпрыемстваў. Лічу, што каму, як не «Нашаму слову», трэба даць адпаведныя тлумачэнні з нагоды выхаду ў свет гэтага слоўніка, пакуль не пачалася блытаніна.

Падаю некалькі сваіх прапаноў, як замяніць некаторыя тэрміны больш, на маю думку, адпавядаючымі беларускай мове.

| Па-расійску | Па-беларуску | |
|---|---|---|
| | Пераклад у слоўніку | Мае прапановы |
| Администрати́вно-управле́нческие расхо́ды | Адміністрацы́йна-кіраўніцкія расхо́ды (выда́ткі) | Адміністрацыйна-кіраўніцкія выдаткі * |
| Акко́рдная за́работная пла́та | Ако́рдная зарабо́тная пла́та | Акордная заро́бная плата |
| Ве́рхний преде́л цены́ | Ве́рхняя граніца (мяжа́) цаны́ | Верхняя мяжа кошту * |
| Возмеще́ние убы́тков | Пакрыццё страт | Кампенсацыя стратаў |
| Гаранти́йное обяза́тельство | Гаранты́йнае абавяза́цельства | Гарантыйны абавязак |
| Заку́почные цены | Заку́пачныя цэны | Закупны́я цэны |
| Ме́неджер | Ме́неджэр | Ме́нэджэр |
| Ме́тоды нормирова́ния расхо́да... | Ме́тады нарміра́вання расхо́ду (выда́тку)... | Метады нармава́ння расходаў... |
| Ненорми́рованный рабочий день | Ненармі́раваны працо́ўны дзень | Ненармава́ны працоўны дзень |
| Но́рма вы́работки | Но́рма выро́блівання (вы́рабу, выпрацо́ўкі) | Норма выпрацо́ўкі |
| Нормирова́ние многостано́чного обслу́живания | Нарміра́ванне мнагастано́чнага абслуго́ўвання | Нармава́нне шматстано́чнага абслугоўвання |
| Овеществлённый труд | Арэ́чаўленая пра́ца | Матар'ялізава́ная праца |
| Оста́точная сто́имость... | Аста́ткавая ва́ртасць... | Рэ́штавы кошт... |
| Оста́точный срок слу́жбы основны́х фо́ндов | Аста́ткавы (рэ́шткавы) тэ́рмін слу́жбы асно́ўных фо́ндаў | Рэ́шткавы тэрмін службы асноўных фондаў |
| Платёжное тре́бование | Плаце́жнае трэ́баванне | Плацежнае патрабава́нне |
| Потреби́тельская корзи́нка | Спажыве́цкая карзіна | Спажывецкі кош |
| Предпринима́тель | Прадпрые́мец (прадпрыма́льнік) | Прадпрыма́льнік |
| Предпринима́тельство | Прадпрые́мніцтва | Прадпрыма́льніцтва |
| Приба́вочный проду́кт | Прыба́вачны праду́кт | Даба́вачны прадукт |
| Прогнози́рование | Прагназіраванне | Прагназава́нне |
| Просро́ченная задо́лженность | Пратэрмінава́ная запазы́чанасць | Пазатэрміновая запазычанасць |
| Противозатра́тный хозя́йственный механи́зм | Супрацьзатра́тны гаспада́рчы механізм | Супрацьстра́тны гаспадарчы механізм |
| Склад | Склад | Магазін |
| Сове́т | Саве́т | Рада |
| Спи́сочный соста́в рабо́тников | Спісачны саста́ў (склад) рабо́тнікаў (працаўнікоў) | Спісачны склад працаўнікоў |
| Удержа́ния из за́работной платы́ | Вылічэнне (утрыманне) з зарабо́тнай платы | Утрыманні з заро́бнай пла́ты |
| Чек | Чэк | Квіто́к |
| Че́ковая кни́жка | Чэ́кавая кніжка | Квітко́вая кніжка |

Ігар КРУЧОНАК, архітэктар.

* *Зоркай пазначаны словы, замененыя рэдакцыяй.*

## Культура мовы

# Функцыянаваць

**Дзеясловы беларускай мовы не маюць элемента *-ір-*. І тыя, што ўтвараюцца ад пазычаных слоў, таксама падпарадкоўваюцца беларускай мадэлі: да асновы (кораня) дадаецца дзяслоўны суфікс *-ава-(-ява-)*, напрыклад, *аванс — аванс-ава-ць, апека — апек-ава-ць, акцэнт — акцэнт-ава-ць, байкот — байкат-ава-ць, віза — віз-ава-ць, дыспут — дыспут-ава-ць, гарант — гарант-ава-ць, кантраст — кантраст-ава-ць, стымул — стмул-ява-ць, кантроль — кантрал-ява-ць* і г. д.**

**Дзеясловы могуць утварацца і ад поўнай асновы назоўнікаў на *-ія: ПРЭМІЯ* — прэмій-аваць, анексія — анексій-аваць, дыскусія — дыскусій-аваць (побач з *дыскутаваць* — ад *дыскут-ант*, як і *дыспут-аваць*).**

**Калі ў беларускай мове выкарыстоўваецца некалькі аднакаранёвых іншамоўных слоў, то пры ўтварэнні дзеяслова ў ролі ўтваральнай можа выступаць іх найбольшая агульная частка (аснова): функцыянер, функцыянальны, функцыяналізм і функцыян-аваць (не *функцыяваць* ад *функцыя*), санкцыянер — санкцыянаваць, калекцыян-ер — калекцыянаваць.**

**Некаторыя дзеясловы могуць утварацца і ад поўнай асновы вытворных (этымалагічна) назоўнікаў, калі іншых слоў з коранем гэтага дзеяслова ў беларускай мове няма: *апанент — апанентаваць*, г. зн. выступаць апанентам (форма *апанаваць* не мае тут свае матывацыі), *суфлёр — суфлёраваць*, г. зн. выконваць ролю суфлёра (*суфлеваць* суадносіцца толькі з *суфле*).**

**Калі іншамоўны дзеяслоў не мае ў беларускай мове свайго ўтваральнага назоўніка, а іншыя словы з вытворнаю асноваю, то агульная аснова іх і выступае як утваральная: *акумул-ятар, акумул-яцыя* і *акумуляваць; апелянт, апел-яцыя* і *апеляваць; акуп-ант* і *акуп-аваць; кампіл-яцыя, кампіл-янт* і *кампіл-яваць, адміністр-атар, адміністр-ацыя* і *адміністр-аваць* і г. д.**

**На жаль, нашыя акадэмічныя слоўнікі часта не ішлі тут ад беларускай мовы, яе заканамернасцяў, а арыентаваліся на «ўсесаюзны ўзор», таму шмат якія дзеясловы падаюцца імі з *-ір-*, хоць гэты элемент, як слушна зазначаў вядомы беларускі мовазнаўца і пісьменнік Мікола Лобан, з'яўляецца выпадковым і непатрэбным, бо ў слове ён не выконвае ніякай ролі — ні сэнсавай, ні службовай. Тым не менш, і нашыя даведнікі 80-ых гадоў абрынулі на чытача цэлую навалу «ірных» дзеясловаў. Напрыклад, «Беларуска-рускі слоўнік» 1988/89 гадоў падае: *ануліраваць* (хоць яно ад *нуль*), *аднікеліраваць* (нікель), *адпаліраваць* (замест натуральнага *адпалітураваць, палітура*) *азаніраваць* (азон), *анексіраваць, апеліраваць, апламбіраваць* (пломба), *афішыраваць* (афіша), бальзаміраваць (бальзам), *бітуміціраваць* (бітум), *блакіраваць* (блок), *ваяжыраваць* (ваяж), *візіраваць* (віза), *гастраліраваць* (гастролі), *дубліраваць* (дубль), *дыскусіраваць* ды безліч іншых, якія з'яўляюцца звычайнымі калькамі.**

**Варта больш паслядоўна прытрымвацца заканамернасцяў роднае мовы і ў дзеяслоўным словаўтварэнні.**

**Павел СЦЯЦКО.**




*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Самымі славутымі паэтамі (і драматургамі) Нарвегіі ў XIX стагоддзі былі, несумненна, Генрык Ібсен (1828—1906) і Б'ёрнст'ернэ Б'ёрнсан (1832—1910). Іх творчасць мела розгалас і па-за межамі іх паўночнай радзімы.

*Генрык ІБСЕН*

## План будаўніцтва

У згадках, як наяве, — той добры даўні час,
Калі свой верш чытаў я ў газеце першы раз:
Там, у малой каморцы, аж дых мне заняло —
Курыў я й ціха мроіў, і слаўна так было:

«Збудую замак светлы ў краі паўночным тым,
З пакоямі ўсяродку — вялікім ды малым.
Скальд неўміручы будзе ў вялікім ціха граць,
Ну а ў малым — дзяўчынка праніклівая спяваць».

Я думаў: план мой гэты — гармонія адна;
Над ім сядзеў я сідзьма з відна і да відна.
Той замак стаў вар'яцкім, бо дойлід — не вар'ят:
Вялікі пакой стаў цесным, прыйшоў малы ў заняпад.

*Б'ёрнст'ернэ Б'ёрнсан*

## Бялявая нарвежка

Ад слоў маіх заўжды ўцякаеш ты,
Крыху збянтэжана, з усмешкай.
Паветранай раскошай пекнаты
Чаруеш ты мяне, нарвежка.

Твой позірк — нібы ў цемрадзі начэй
Святло зіхоткай, яснай поўні.
Ці ёсць дзе-небудзь глыбіня вачэй,
Што можа быць з тваёй нароўні?

Люблю тваё высокае чало,
Твой профіль ясназорна-горды
І тваіх думак чыстае святло —
Няпростых, як абрысы ф'ёрда.

Люблю твае льняныя валасы
З істужкай вузенькаю ў пасмах:
Амуры прад абліччам той красы
Дрыжаць, бы ў старажытных казках.

Люблю, як за фальбонкамі фаты
Ты нахіляеш стан прынадна,
Калі гарэзлівасць хаваеш ты
І вабіш гэтак мяне ўладна.

І ножкі я люблю, якім было
Прызначана самой прыродай
Прынесці веліч у любві жытло
З гасподы сілы і свабоды.

Люблю і вусны пекныя твае;
Амур і сочыць, і раўнуе:
Хоць ім Эротаў яблык і дае,
Але няспынна іх пільнуе...

Люблю! Хоць высмеяў сябе як след,
Хоць выклікаў тваю насмешку:
Маўляў, ніколі не звязе паэт
З дарогі праведнай нарвежку.

**Пераклад з нарвежскай Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.**

# «Літоўскую гаспадыню» цаніў сам Уладзімір Караткевіч

*Чыталі?*

**Выдавецтва «Полымя» падарыла чытачам унікальную кнігу «Літоўская гаспадыня». Праўда, кніга магла выйсці пад больш дакладнай назвай «Беларуская гаспадыня», бо яна складзена менскай гаспадыняй і ўтрымлівае вельмі шмат надзвычай карысных і цікавых рэкамендацый: як зберагчы ў належным стане дом, як захоўваць, сушыць, саліць, марынаваць гародніну і садавіну, як варыць варэнне, як гнаць спірт, запраўляць гарэлку і лікёры, як засцерагчыся ад пажару, як быць жаночыне прывабнай...**

**Ва ўступным слове да чытача Адам Мальдзіс расказвае пра гісторыю гэтай кнігі: «Кніжка гэтая магла б з'явіцца не ананімна, як выходзіла раней і выходзіць цяпер, а з указаннем прозвішча аўтара, дакладней — аўтаркі. Ды такая ўжо была воля аўтаркі, каб усе шэсць выданняў «Літоўскай гаспадыні» — і прыжыццёвае (1848), і пасмяротныя (1851, 1856, 1858, 1862, 1873) — убачылі свет ананімна. Таму воля тая захоўваецца і зараз, у першым беларускім перакладзе». А пераклалі «Літоўскую гаспадыню» з польскай мовы П. Казлоўскі і В. Нядзвецкая. Далей Адам Мальдзіс расказвае: «Неяк у 1970 годзе я чытаў лекцыю ў Магілёўскай абласной бібліятэцы. Пасля мяне папрасілі паглядзець і вызначыць каштоўнасць польскіх кніг, што стаялі ў запасніках. А калі работа была закончана, дазволілі як «ганарар» узяць нешта з дублетаў. Выбар мой паў на «Літоўскую гаспадыню», бо, па-першае, я разумеў, што пад словам «літоўскі» тут хаваецца беларускі падтэкст, па-другое, у іншых бібліятэках яна мне не сустракалася... Вярнуўшыся з кнігай у Мінск, я адразу ж паказаў яе Уладзіміру Караткевічу. Зацягваючыся беламорынай, ён доўга гартаў пажаўцелыя ад часу старонкі, потым нешта выпісваў («бач ты, ужо тады ўмелі»)...**

**— Слухай, стары,— сказаў тады мой госць,— гэта ж абавязкова трэба перакласці на нашу мову. Такое багацце, такая смаката... А кажуць жа, што ў нас нічога не было — толькі лапці і каўтун у галаве... Можа, я нават сам паспрабую зрабіць пераклад, калі будзе час. Хаця... хаця хто такое выдасць?»**

**І сапраўды, у тыя гады такія кнігі, тым больш звязаныя з беларускай гісторыяй і культурай, не толькі не цаніліся, а лічыліся шкоднымі. У заключэнне гэтай невялічкай анатацыі да «Літоўскай гаспадыні» хочацца падзякаваць Адаму Мальдзісу за такую знаходку і перакладчыкам за вялікую і патрэбную працу. Да ўсяго, Адам Мальдзіс знайшоў аўтарку «Літоўскай гаспадыні». Гэта Ганна Цюндзявіцкая, якая нарадзілася ў 1803 годзе ў Каралішчавічах пад Менскам. Выйшаўшы замуж за маршалка шляхты Барысаўскага павета, апекавала сялян, збірала народныя рэцэпты і правярала іх на практыцы.**

**«Літоўская гаспадыня» выйшла накладам 50 тысяч паасобнікаў. Здаецца, тыраж немалы, але ўсё-такі раім паспяшацца ў кнігарню і набыць гэтую цудоўную кнігу, якую цаніў сам Уладзімір Караткевіч.**

**В. А.**

## Мама, пачытай!

*Вольга САВАСЦЮК*

### ДРЭННЫ СОН

**Ноччу часта ў сне лятаю.
Мама кажа: падрастаю.
Трэба гнаць мне гэткі сон —
Хутка выpасту, як слон.**



### ЗАХВАРЭЎ

**Зазірнуў у хату Міня —
На стале ляжала дыня.
«Будзе, пэўна, з кілаграм,
З'ем адзін, сястры не дам».**



**У малінніку за плотам
Дыню смакаваў употай.
Што за гора, за прычына?
Ные, курчыцца хлапчына:
«Нешта мне жывот баліць,
Цяжка дыхаць, гаварыць».
А сястра стаіць, рагоча:
«Мо, яшчэ ён дыні хоча?»**

### ПАМЫЛІЎСЯ АРХІТЭКТАР

**Пад бярозай ля шашы
Ладзяць хату мурашы.
Сіл патрацілі нямала,
Толькі радасці — ані.
Жыгулі і самазвалы
Тут сігаюць дзень пры дні.
Архітэктар вінаваты —
Выбраў месцейка для хаты!**



### СУСТРЭЧА

**Надвячоркам каля крамы
Стрэлася з сяброўкай мама:
«Вось удача, дык удача —
Сто гадоў цябе не бачу».
Не магла я не здзівіцца:
«Табе ж, мама, толькі
трыццаць!»**




# Як быццам чужым шляхам...

Ужо на многія, здавалася б, падзеі нядаўняга мінулага пакладзена пячатка пылу. Вось і былы Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў, словы якога прыведзены ў прадмове да першага выпуску гісторыка-літаратурнага зборніка «Шляхам гадоў» (Менск, «Мастацкая літаратура», 1990), даўно згубіў лейцы кіравання... Але ж праўду тады сказаў «нямодны» сёння Гарбачоў: «Без гістарычных каранёў няма народа. Дрэва без каранёў сохне, гіне...»

Няма зараз на палітычнай арэне Міхаіла Сяргеевіча. А зборнік «Шляхам гадоў» жыве, па-ранейшаму ідзе да чытача (ужо тры яго выпускі можна ставіць, скажам так, поплеч).

Толькі, на жаль, не ўсе чытачы, славіўшы «першую ластаўку», узнагароджаны шанцам мець два астатнія зборнікі. Наклад першага выпуску — шэсць тысяч паасобнікаў. Другога — дзве тысячы трыста... А сёмы, трэці, выдадзены колькасцю ўсяго ў 800 адзінак. Як быццам шляхам чужой гісторыі хочуць правесці чытача шаноўныя даследчыкі беларускай мінуўшчыны. А выдаўцы аберагаюць нас ад гэтага...

Праблемы з рэнтабельнасцю беларускай кнігі сёння агульнавядомыя. Але ўсё ж паспрабуем без дэмагогіі спыніцца на той выснове, што скупы заўжды плаціць двойчы. Так і тут: намеры зрабіць малавядомыя старонкі нашай гісторыі агульнадаступнымі пакуль застаюцца няздзейсненай марай публікатараў.

Укладальнік трэцяга выпуску зборніка «Шляхам гадоў» (як і папярэдняга) — вядомы гісторык літаратуры Уладзімір Мархель. Значную частку публікацый складаюць матэрыялы, прысвечаныя Максіму Багдановічу. Тут, у прыватнасці, надрукаваны творы Максіма Багдановіча, знойдзеныя Таццянай Дзем'яновівіч, Верай Мікутай, Таццянай Шубінай, Таццянай Шэляговівіч.

У эпісталярным раздзеле зборніка — лісты Марыі Апанасаўны Багдановіч да мужа. Мо і пякучы для нашага слыху радок заўважыла аўтар прадмовы да лістоў Тамара Кароткая: «Вот только плохо, что стали говорить по-белорусски, и иногда такое словечко выпалят, что хоть сквозь землю провались». Але ж за радком — і яшчэ большае разуменне прасторы, праз якую ішоў да роднага слова Максім Багдановіч.

Працягам тэмы М. Багдановіча з'яўляецца нарыс Уладзіміра Содаля пра Зоську Верас «Шкадую я яго ўсё жыццё...»

Кожны з матэрыялаў, змешчаных у зборніку «Шляхам гадоў»,— уводзіны ў знаёмы і незнаёмы свет гісторыі беларускага слова. З гэтага шэрагу — перакладзеныя на беларускую мову кавалкі з «Торбы смеху» Караля Жэры (прадмова і пераклад належаць Міколу Хаўстовічу). Аўтар «Торбы смеху» — адзін з першых вядомых сёння збіральнікаў беларускага фальклору.

Асаблівасць зборніка «Шляхам гадоў» у тым, што ў кожным з яго выпускаў друкуюцца матэрыялы арыгінальныя, пра існаванне якіх большасць чытачоў нават не здагадвалася. Закладваецца традыцыя праз гісторыю літаратуры знаёміцца з мінуўшчынай Беларусі. «Шляхам гадоў» — як бы спадзяванне на тое, што, магчыма, будзем мы мець падобны часопіс. Ва ўсялякім разе, аўтарскі актыў у падобнага штоквартальніка ці штомесячніка знайшоўся б. Пра карысць і неабходнасць такога выдання наўрад ці варта весці дыскусію.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

Юбілеі

# «Паўлінка» заўсёды маладая



Кожны новы сезон у Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы па традыцыі адкрываецца адным і тым жа спектаклем. Гэта камедыя «Паўлінка» Янкі Купалы.

15 жніўня споўнілася 80 гадоў з першага паказу спектакля. Яго паставіў менскі драматычны гурток, якім кіраваў рэжысёр Ф. Ждановіч. Спектакль адбыўся ў Радашковічах і запомніўся тым, што на ім прысутнічаў сам аўтар. За доўгія гады існавання спектакля ў ім ігралі многія вядомыя артысты Беларусі.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля «Паўлінка». У ролі Паўлінкі — артыстка А. Доўгая (у цэнтры).

Фота БЕЛІНФАРМ.

**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!**

Рэспубліканская Рада ТБМ імя Ф. Скарыны звяртаецца да ўсіх кіраўнікоў рэгіянальных суполак для больш цеснай каардынацыі дзейнасці паведаміць свае кантактныя тэлефоны, якія ў далейшым будуць змешчаны ў «Нашым слове».

Сакратарыят ТБМ імя Ф. Скарыны, тэл. 33-25-11.




## Д. Джарвіс: Высокі крывяны ціск (гіпертанія)

*Заканчэнне. Пачатак у № 33.*

Якая ж пазіцыя народнай медыцыны па пытанні гіпертаніі?

З прадуктаў харчавання рэкамендуюцца багатыя на вугляводы фрукты, зяляніна, ягады, мёд, тады як багатыя на бялкі яйкі, мяса, малако, сыр, гарох, боб, арэхі трэба ўжываць умерана. Бо бялковая ежа стварае ўмовы для развіцця гіпертаніі, калі ўжываць яе ў вялікай колькасці і штодзённа. У арганізме назапашваецца значная энергія, якая пры напружаным тэмпе жыцця выдаткоўваецца, а пры спакойным, запаволеным садзейнічае павелічэнню шчолачнасці крыві.

Рэакцыя крыві заўсёды шчолачная. Але шчолачнасць крыві можа ўзрастаць або паніжацца. Пры павелічэнні шчолачнасці кроў згусае, і ў ёй з'яўляецца асадак у выглядзе дробных камячкоў. Плазма (вадкасць) крыві пранікае праз сценкі найдрабнейшых крывяносных сасудаў крывяноснай сістэмы падобна да таго, як чарніла прасочваецца праз прамакальную паперу. Але загуслая кроў з цяжкасцю пранікае праз сценкі дробных сасудаў. Невялікія камячкі закупорваюць некаторыя з іх, і праз пэўны час адбываецца адваротны ток крыві, у сувязі з чым павялічваецца крывяны ціск.

Што думае на гэты конт народная медыцына?

Штодзённае ўжыванне бялковай ежы не прыносіла б такой шкоды, калі б павышэнне шчолачнасці крыві ў арганізме кампенсавалася за кошт адпаведнага павелічэння колькасці арганічнай кіслаты ў ім. Таму народная медыцына рэкамендуе павялічыць штодзённае ўжыванне яблыкаў, вінаграду, журавін і іх сокаў. За суткі трэба спажываць колькасць фруктаў, эквівалентную чатыром шклянкам соку. У якасці крыніцы кіслаты можна ўжываць яблычны воцат, у такім разе яго трэба прымаць па дзве чайныя лыжачкі на шклянку вады за ядой.

Неабходна перагледзець свой штодзённы рацыён і правільна збалансаваць у ім колькасць бялкоў і вугляводаў. Замест вырабаў з пшаніцы, цукру і мяса, якія садзейнічаюць з'яўленню шчолачнай рэакцыі мачы і крыві, ужывайце прадукты з кукурузы. Памятайце таксама, што кухонная соль прыцягвае і ўтрымлівае вадкасць у арганізме, таму з рацыёну людзей з высокім крывяным ціскам трэба выключыць салёныя прадукты. Пасля салёнага заўсёды хочацца піць. Да моманту выдалення з арганізма залішняя вадкасць утрымліваецца ў крыві і такім чынам выклікае павышэнне крывянога ціску. Калі ж соль і салёныя прадукты выключаюцца з рацыёну, кроў ахвотна аддае вадкасць і крывяны ціск паніжаецца разам з паніжэннем колькасці солі ў ежы.

Мёд аказвае процілеглае солі дзеянне. Калі яго ўжываць за кожнай ядой, ён будзе забіраць лішнюю вільгаць з крыві, паніжаючы тым самым крывяны ціск. Разам з тым ён дзейнічае як транквілізатар, супакойваючы і здымаючы нервовае напружанне, якое спадарожнічае гэтай хваробе. Калі «гіпертонік» будзе рэгуляваць шчолачнасць крыві, кіруючыся парадамі народнай медыцыны, ён дажыве да глыбокай старасці.

## Думкі ўслых

**Не рабіце нічога курам на смех. Даказана: куры пачуццём гумару не валодаюць!**

**І балбатун можа стаць карысным, калі да яго языка падключыць хаця б веялку.**

**Ён так гарэў на працы, што пракурор мусіў узяць на сябе функцыі пажарніка.**

**Ахвотна прапаноўваў сваю падтрымку тым, хто ўпэўнена стаяў на ўласных нагах.**

**Калі чалавек маўчыць, магчыма, у яго на самой справе няма чаго сказаць.**

**Прыхоўваў свае адмоўныя якасці, каб гэтым замаскіраваць адсутнасць дадатных.**

**Абмежаваны чалавек больш за ўсё прэтэндуе на неабмежаваную ўвагу да сябе.**

**Ён заўсёды даваў такое вялікае чэснае слова, што потым ніяк не мог яго стрымаць.**

**Тайны непрыяцель і ў гарачых абдымках задушыць.**

**Мухі ў жыцці не пакрыўдзіў: лічыў, што ёсць аб'екты, болей дастойныя ўвагі.**

**Ён узняў крытыку на такую вышыню, што яе голас зусім не быў чуцен.**

**Самымі бясколернымі аказваюцца каляровыя фразы.**

**Пра смакі можна спрачацца. Адсутнасць іх заўсёды бясспрэчная.**

**Ён стаяў такой гарою за праўду, што з-за яго спіны праўды зусім не было відаць.**

Думаў «услых»
Пятрусь КАПЧЫК,
філолаг.
г. Ізяслаў, Украіна.

*Пароды*

*Валерый ШЫХАНЦОЎ*

### Мальба

*Ты да ахвярнасці цела*
*узрушыў...*
* * *
*Бяры маё цела, Гасподзь!*

Вольга КУРТАНІЧ.

**Мой лёс — і адметны, і**
**смелы —**
**Прызнаннем мяне**
**ўзнагародзь.**
**Забудзь жа ахвярнае цела,**
**Любі мае вершы, Гасподзь!**

### Альтэрнатыва

*Праз гук іду да слова*
*І гаварыць вучуся*
*Нанова, як дзіцё...*

Змітрок МАРОЗАЎ.

**Пісаць я вершы мушу,**
**Хоць, можа, і не трэба,**
**Хоць, можа, не заўсёды**
**Хапае мне і слоў.**

**Але я ўсё ж вучуся,**
**Нібы дзіцё малое,**
**І разумею раптам,**
**Што ісціну знайшоў.**

**Што гук — пачатак слова,**
**А слова — частка фразы,**
**А фраза — частка верша,**
**Што я пісаць пачаў.**
**Калі б маўчала жонка,**
**Калі б маўчалі дзеці,**
**Калі б не тыя грошы —**
**Ніколі б не пісаў.**

*Георгій ЮРЧАНКА*

### Самаўсведамленне

*Сляды... Гулялі кацяня*
*І шэры верабей.*

*Адчайны міг —*
*Адчуць сябе паэтам.*

Марыя Гудкова.

Сляды, сляды... З куточка ў
кут.
Чытаю іх штодня:
Вось верабей скакаў, а тут
Прабегла кацяня.

А як прыемна кожны крок
Падзей расшыфраваць:
Хацеў пухнаценькі звярок
Птушынку ўпаляваць.

Ні вераб'я, ні кацяня...
Застаўся толькі след.
І я таго ж адчула дня:
Жыве ўва мне паэт.

## ШТО ПАГЛЯДЗЕЦЬ ПА ТЭЛЕВІЗАРЫ?

**25 ЖНІЎНЯ, СЕРАДА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**20.15. ТА «Рэха». Рэйтынг.**
**20.35. Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя.**
**21.00. Панарама.**
**22.15. «Ля гасцінца». Музычная забаўляльная праграма з удзелам папулярных беларускіх спевакоў.**

**26 ЖНІЎНЯ, ЧАЦВЕР**

**13.10. ТА «Рэха». Рэйтынг.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.45. Роднае слова. Тэлечасопіс.**
**21.00. Панарама.**
**22.15. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**

**27 ЖНІЎНЯ, ПЯТНІЦА**

**17.40. «Фестываль у Выбаргу». Міжнародны фестываль дзіцячых фальклорных калектываў. Перадача 1-я.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Тэлевізійны Дом кіно. Да свята кінематографа.**
**21.00. Панарама.**

**28 ЖНІЎНЯ, СУБОТА**

**10.00. Паказвае Брэст. Мастацка-публіцыстычная праграма.**
**11.50. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**13.00. Паэтычная гасцёўня. С. Грахоўскі.**
**21.00. Панарама.**
**23.50. НІКа.**

**29 ЖНІЎНЯ, НЯДЗЕЛЯ**

**8.55. «Наша стагоддзе». Тэлевізійны дакументальны фільм.**
**11.55. Прэм'ера кнігі. Зборнік паэзіі Р. Баравіковай «Люстэрка для самотнай».**
**14.30. С. Мрожак. «Шчаслівае здарэнне». Спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа.**
**19.20. Запрашаем на вячоркі.**
**20.00. Панарама.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Зак. 285.

МВПА імя Якуба Коласа,
Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка»,
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.
Індэкс 63865.

Наклад 7197 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 23.08.1993 г. у 15 гадзін.